Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 17 (164) Вільня, Субота 18 Лютага 1928 г. Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ:
Вільня, Вострабрамская вул. № 8, кв. 1.
(Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.
Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта.
— ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА:
На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 3 зл., на шэсьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## Ратунковая проба.

Кола жыцьця верціцца бяз прыпынку; час ляціць у нябыцьцё. Цераз усялякія, а пераважна няпрыемныя і непажаданыя для нас зьявы і праявы, сучаснае наша жыцьцёбыцьцё прыбліжае нас да таго дня, калі мы павінны будзем зварухнуцца, каб уласнаю рукою папробаваць пакіраваць кола жыцьця і палёт часу ў іншы бок: далоў ад тых зьяваў і праяваў, якія ўспаміналіся вышэй. Тым запраўды знаменным днём, у які мы павінны будзем зварухнуцца да ратунковае пробы, будзе дзень 4 сакавіка: дзень галасаваньня на прадстаўнікоў ад Беларусаў у польскі Сойм.

Запамяйтаце гэта вы, Беларусы, і трымайце ў сэрцах вашых пачуцьцё абавязку, абавязку да таго, каб зрабіць тую, якую я назваў „ратунковаю“ пробу. Зрабіць яе вы абавязаны, ува імя сваіх інтарэсаў і направы свайго гаротнага быту. Вы абавязаны той жорсткай сучаснасьцю, той наўдзячнай доляю і той ліхой гаротнасьцю, якія вас мучаць цяпер. Ці ёсьць у вас імкненьне да лепшага, ці ёсьць у вас жаданьне направы быту, ці разумееце вы абавязак і павіннасьць да самых сябе—пакажа той чацьверты дзень сакавіка, у які вам належыцца пайсьці і кінуць да урны паперку з № 18 і гэтым самым распачаць ратунковую акцыю, каб пазбыцца жорсткай сучаснасьці, няўдзячнай долі і ліхое гаротнасьці.

Хто ня выканае гэтага абавязку, той пакажа сябе з благога боку, той выявіць нядбаласьць да самога сябе, якая зьяўляецца найстрашнейшым ворагам нашага існаваньня. Нядбаласьць, вось корань тэй нядолі, з якога растуць ліхалецьця! Дык няхай-жа стане сёлетні 4 дзень сакавіка паваротным пунктам, крокам на новы этап нашага бытаваньня, якое будзе адзначана тым, што мы пераходзім ад нядбаласьці да дзейнасьці, ад пакорнае пакуты да актыўнага, парляманцкага змаганьня з бедамі, каб перамогшы іх стварыць новае, запраўды чалавечае жыцьцё.

Праўда, уся ратунковая справа, у значнай меры, залежыць і ад тых абставінаў, якія акружаюць вас. І мусім сказаць, што акружаюць вас, браты Беларусы, вельмі благія абставіны. З аднаго боку вашая часковая неасьвядамлёнасьць, а з другога—злая воля тых людзей, для якіх сучаснае ваша гаротнае палажэньне зьяўляецца залатым скарбам, якія стараюцца, як-мага, пакладаць усе свае сілы, напружваюць свае жылы, як гаворыцца, лезуць са скуры далоў, абы ўтрымаць вас на месцы, абы паказаць вам мыльную і блудную дарогу, абы пакіраваць вас на шлях самазьніштажэньня і разбурэньня. Вось чаму мы зьвяртаемся да тых сыноў Беларускага працоўнага Народу, якія папалі пад прыхільную ласку лёсу і, здабыўшы сабе сьведамасьць, разумеюць сутнасьць справы. Мы зьвяртаемся да іх са шчырым словам і кажам: на вас ляжыць абавязак зварухнуць сярмяжную масу да самадзейнасьці, гэта знача павясьці яе да выбарных урнаў, каб цераз гэта ад нядбаласьці перайсьці на шлях актыўнага змаганьня з няласкамі лёсу і палажыць першы камень пад новы гмах нашага адраджэньня і вызваленьня.

Што-ж вы, сьвядомыя браты, павінны зрабіць цяпер для таго, каб у 4 дзень сакавіка Беларускі працоўны Народ паказаў сябе?

Вам трэба вытлумачыць сярмяжным масам, што яны, у імя направы свайго быту павінны пайсьці і абавязкова аддаць свой голас. Вось, гэта першае ваша заданьне!

Другое—вам трэба быць на варце інтарэсаў працоўнага народу і даглядзець, каб якія-небудзь ашуканцы і падшыванцы ня выкарысталі Беларусаў у сваіх подлых мэтах. Вы павінны дапільнаваць, каб Беларус аддаў свой голас за таго, хто запраўды зьяўляецца абаронцам яго правоў, яго інтарэсаў.

Трэцім заданьнем кожнага сьвядомага Беларуса ёсьць: навучыць выбаршчыкаў, што толькі той сьпісак, які выстаўлены Беларускім Цэнтральным Выбарным Камітэтам Блёку Нацыянальных Меншасьцяў і зарэгістраваны пад № 18, зьяўляецца запраўды беларускім сьпіскам, за які і трэба галасаваць. *Толькі той будзе мець запраўдных абаронцаў, хто аддасьць свой голас за сьпісак № 18!*

У гэтым вось і выявіцца ратункрвая проба, прадмет нашага сёньняшняга разважаньня.

## Прывет і заклік з чужыны.

Шчыры прывет Вёсцы і Месту беларускім перасылаюць іхнія дзеці, моладзь беларуская, што ня могучы вучыцца дома змушана была ісьці ўпрочкі, за граніцу, дзе на дзеле пазнаўшы цану і спосабы народнага адраджэньня, яшчэ перад пяцьцю гадамі, злучылася ў моцную ідэёвую арганізацыю—Беларускі Сялянскі Саюз.

Беларускі Сялянскі Саюз за граніцай, шчыра вітае ўсё беларускае сялянства і работніцтва ў краю і запэўняе іх у тым, што моладзь беларуская на эміграцыі, згуртаваная пад сьцягам Беларускага Сялянскага Саюзу, была, ёсьць і астанецца заўсягды вернай імкненьням і жаданьням Беларускага Народу, з сярмяжных радоў каторага яна вышла.

І таму, маючы на ўвеце дабро цэлага Народу Беларускага наагул і сялянства асабліва, заграічны Беларускі Сялянскі Саюз ня можа астацца бяздзейным у так важную гістарычную часіну, калі і на землях беларускіх вядуцца нялюдзкія проста змаганьні, каб правясьці ў польскі Сойм сваіх людзей. Гэта ёсьць момант першараднай вагі і прапусьціць яго азначала-б прызволіцца на акт нацыянальнага самагубства. Да гэтага дапусьціць нельга.

Шырэй гаварыць тут аб патрэбе ўсеагульнага ўчасьця на выбарах—уважаем за лішняе. Таксама за лішняе ўважаем даказваць, што адзінымі нашымі сапраўднымі абаронцамі ў Сойме могуць быць толькі і толькі Беларусы, бо старонка наша беларуская і Народ наш ніхто іншы, як толькі беларускі. Уважаем Народ наш на гэтулькі ўжо грамадзка дасьпеўшым і сьвядомым, што сумысныя доказы на ўсё вышэйсказанае здаюцца быць лішнімі.

Патрэбным затое ўважаем зьвярнуць увагу, асабліва нашага сялянства, на іншую вельмі важную рэч: Беларусы ў гэтых выбарах, дзеля розных прычын, ня ідуць усе разам, як гэта было пры выбарах перад пяцьцю гадамі. Шмат хто аказаўся цяпер на гэтулькі неразважным, што даў пяршынство сваім асабістым разрахункам перад справамі ўсенароднымі. Шмат хто ідзе на выбары з найвыразьнейшымі склонамі ў розныя чужыя нам бакі, раз на ўсход, іншы раз на захад. Усе гэтыя людзі сяньня гавораць ужо таксама панашаму, пабеларуску, прыкідаюцца быць таксама Беларусамі, хоць такімі сапраўды ніколі быць ня змогуць з тае хоць-бы ўжо прычыны, што ім на гэта не дазволяць тыя іхнія „хлебадаўцы“, за чые грошы і пад чыю каманду яны сяньня разьяжджаюць, ды ўсяляк наш Народ намаўляюць.

Знача, далёка ня ўсе людзі будуць сапраўды нашымі, хто панашаму да нас сяньня гавораць. Нашымі будуць тыя, хто панашаму ня толькі гавораць, але і шчыра з намі думаюць. Такімі людзьмі ёсьць дзейныя нашы нацыянальныя працаўнікі, згуртаваныя ў Цэнтральным Беларускім Аб'яднаным Выбарным Камітэце Блёку Нацыянальных Меншасьцяў. Сам ужо толькі хоць-бы факт аб'яднаньня ў гэтым Камітэце аж трох розных партыяў паказвае, як добра разумеюць і цэняць прадстаўнікі гэтых партыяў нацыянальную еднасьць нашага Народу, дзеля захаваньня, якой патрапілі падпарадкаваць дражлівыя інтарэсы партыйныя інтарэсам усенародным. Усё гэта дае заруку, што і людзі, прайшоўшыя ў Сойм, ці Сэнат ад імя гэтага Аб'яднанага Камітэту, будуць заўсягды верна сьцерагчы інтарэсы перад усім агульна нацыянальныя, усенародныя.

Зважыўшы ўсё гэта, а таксама і тое, што галасаваньне за розныя дробныя сьпіскі, пры сягодняшніх абставінах нялюдзкага напору ўсіх чужацкіх сілаў супроць прыбітага горам Беларускага Народу, было-б ні больш, ні менш, як неразважным безгалоўем, направіць якое пасьля ніхто ня будзе ў стане, клічам ад шчырае душы ўвесь Народ Беларускі ў Заходняй Беларусі (пад Польшчай):

**ПАЧУЙЦЕ НАС!**

ды выканайце свой грамадзкі абавязак, які залежыць у гэтым:

1) Ідзеце на выбары ўсе пагалоўна, старыя і маладыя, мужчыны і жанчыны,

2) **Галасуйце толькі за сьпісак Беларускага Аб'яднанага Камітэту Блёку Нацыянальных Меншасьцяў, які мае № 18.**

Беларускія выбаршчыкі! Вам усе гэтыя шчырыя думкі з далёкай чужыні перасылаем, на Вас найлепшыя надзеі пакладаемо. Хочам моцна верыць, што нашыя спадзяваньні апраўдаецца.

**Усе галасуйце за № 18!**

З родным прыветам

**Бел. Сялянскі Саюз за граніцай.**

## Выбарная фільма.

### Арышты нашых працаўнікоў.

**Гэтымі днямі ў Браславі арыштаваны віцэ-старшыня Беларускага Сялянскага Саюзу, кандыдат па сьпіску Блёку Нацыянальных Меншасьцяў па Сьвянцянскаму выбарнаму вокругу, гр. Юхневіч. Прычыны арышту няведамы.**

**Некалькі дзён перад гэтым быў арыштаваны актыўны працаўнік Блёку Нацыянальных Меншасьцяў у Сьвянцянскім павеце гр. Карэцкі.**

### Лёс Ваўкавыскага Камітэту.

Пасьля таго, як ваўкавыскія ўлады арыштавалі сэкрэтара Ваўкавыскага Беларускага Камітэту Блёку Нац. Меншасьцяў нашага кандыдата гр. Ю. Наруша і пры гэтым зьліквідавалі Камітэт, дык Цэнтр арганізаваў новы Камітэт пад кіраўніцтвам гр. Булыгі.

Няведама з якіх прычынаў ваўкавыскія ўлады арыштавалі гр. Булыгу і атправілі этапам у Браслаўскі павет на месца заўсёдняга жыцьця. Далейшы лёс гр. Булыгі яшчэ нам ня ведамы.

А гэтакім чынам Ваўкавыскі павет астаўся бяз ніякага кіраўніцтва выбарнымі справамі.

Па чуткам, быццам, гр. Ю. Наруш з пад арышту зьвольнены.

Цэнтральны Камітэт стараецца справу як-небудзь направіць. Аб дзейнасьці ваўкавыскае адміністрацыі падаецца жалаба Варшаўскім выбарным уладам.

### Тэрор у выбарнай акцыі Бэ-Бэ.

(Беспартыйны Блёк № 1).

Пад такім загалоўкам „Dz. Wil.“ № 33 перадруковывае заметку з „Głosu Narodu“. Прыводзім яе цалком.

Мэтодай найбольш узлюбленай Б.Б. (№ 1) ёсць тэрор. Тасуецца ён перадусім да ўрадоўцаў. Дзеецца гэта ў такі спосаб, што да данага саюзу ўрадоўцаў (чыноўнікаў) прыходзе з Варшавы „ўказ“: —выдаць адозву з запэўненьнем падтрыманьня сьпіску № 1. Калі ўрад саюзу мудры — такую адозву выдае; сябры саюзу добра ведаюць, у якіх варунках адозва выдана, каб пайсьці быццам за ўказкай саюзу.

Тэрор тасуецца праз Б.Б. і да мяшчанства. Столькі людзей ёсьць зьвязаных з урадавымі і самаўрадавымі прадпрыёмствамі, што кіраўнікі Б.Б. мусілі на гэты род грамадзян зьвярнуць увагу. „Не дастанеш крэдыту“.,. „Страціш даставу абутку“... „Пойдзеш вон з надзорчай рады“... калі не падпішаш адозву Б.Б. Дык падпісуюць. Бо што-ж рабіць: „перадусім жыцьцё, пасьля — філёзофія“.

Тэрор—ясна—не абмінуў перадусім вёскі. Літэраты, прафэсары, ахвіцэры, якія кіруюць ў абозе Б.Б., маюць пераканаьне, што селянін ёсьць дзіцям. Зусім з гэтым ня крыюцца нават перад сваімі палітычнымі праціўнікамі. Дык пад іх націскам (або з уласнай „добрай“ волі) ззывае павятовая ўлада войтаў на нараду. Заяўляецца ім коратка і вузлавата:—як ня будзеце агітаваць за сьпіскам Б.Б.—чакае вас урадавае сьледзтва ў справе валасных фундушаў (з якімі рэдка які войт дае сабе раду) ў справе недагляду ў валасной гаспадарцы і т. п. рэпрэсыі. Войты падпісуюць адозву за Бойкай (пястовец, што перакінуўся да Бэ-Бэ) п. стараста здаволены вяртаецца ў бюро. Назаўтра санацыйны орган валіць чатырохшпальтовую стацьцю з сэнсацыйным загалоўкам: „Усе войты з Х. павету за падтрыманьнем сьпіску № 1“.

Як „працуюць“ бэбэхаўцы на беларускіх вёсках,—пісаць хіба ня трэба, бо ўсе добра ведаюць.

### Скурнікі.

На зьездзе выбаршчыкаў у Маладэчыне выстаўлены былі кандыдатамі на 6 месца ў Сойм М. Шакун і на трэцяе месца ў Сэнат С. Сухадолец. Яны на гэта згадзіліся і далі згоду аб тым на паперы. Але-ж Янка Станкевічык паставіў М. Шакуна на трэцім месцы, а С. Сухадольца на першым у сваіх сьпісках. М. Шакун і С. Сухадолец, думаючы, што гэтым што-колечы выіграюць, прапанову Я. Станкевіча прынялі. З гэтага ясна, што ані Шакун

**18** Выбаршчыкі-Беларусы, гэта адзіны сьпісак кандыдатаў у Сойм і Сэнат. 4 і 11 сакавіка, усе як адзін, ідзеце да абвадовых урнаў і аддайце за гэты сьпісак свой голас.

гэта ня той, што быў паслом, ані Сухадолец не кіраваліся ў дадзеных выпадках якімі-небудзь ідэйнымі разважаньнямі... Яны бралі пад увагу, выключна свае скурныя інтарэсы. Кіраваліся, перадусім, жаданьнем здабыцьця пасольскіх мандатаў. Але-ж ясна, што сваей мэты не дапнуць, а толькі аскандаліліся супрацоўніцтвам з прадажнікам Янкаю Станкевічам. Мы-ж вельмі рады, што гэтак лёгка пазбыліся двох скурнікаў.

### Выгадавалі гадзюку.

Чытачы беларускіх газэтаў памятаюць, з якою вялікаю радасьцю прывітала адна з папярэдніц „Сілы Працы" дурны выбрык „навучонага спадара" Янкі Станкеўчыка. Увесь час папярэдніцы „Сілы Працы" падтрымоўвалі Станкеўчыка, дык ці не за гэта самае Станкеўчык піша ў № 8 сьвайго „Народу":

Ня гледзячы на значную сьвядомасьць беларускага насяленьня ў Заходняй Беларусі, справа выбараў у Сойм і Сэнат прадстаўлялася спачатку вельмі нягодна. Галоўная прычына гэтага была ў тым, што інтэрнацыянальная (міжнародная, ня ідэйна беларуская, ня любячая беларускай справы) часьць былых грамадаўцаў гатова была пайсьці ( і цяпер пайшла) на выбары не беларускія, на выбары, дзе беларускімі галасамі праводзіліся-б Палякі і Жыды, на выбары пры тым-жа дэманстрацыйныя, ад каторых Беларусам ня было-б жаднай карысьці, а толькі шкода.

Вось як гавора аб сваіх таварышох Янка Станкевіч.

Нам, дык яшчэ сяк-так, але-ж ёсьць гэткія ўстановы і асобы для якіх словы „інтэрнацыянальныя і дэманстрацыйныя" вельмі многа, надта шмат чаго гавораць не на карысьць таго, аб кім яны напісаны Я. Станкевічам. Так сказаць, папярэдніцы для сваей спадкаберніцы „Сілы Працы" выгадавалі гадзюку, тую гадзюку, якая гадавана была выключна для Сял. Саюзу. Але-ж гадзюка не пашкадавала і сваіх узгадавацеляў, каб не кальнуць вострым і атручаным джыгалам.

### Сірацінка, як бярозка ў полі.

„Мы наўперад прылажылі ўсе сілы, каб стварыць суцэльны беларускі фронт. Але гэта аказалася немагчымым, бо інтэрнацыянальная часьць кіраўнікоў былой „Грамады" пад чужым уплывам прынцыпіяльна адмовілася ад блёкаваньня з іншымі, хоць і блізкімі да яе, беларускімі кірункамі, хоць ў прыватных гутарках прызнавала за намі ўсю праўду. Ісьці ў блёк з так званым „Аб'яднаным Беларускім Камітэтам блёку нацыянальных меншасьцяў"? Але наўперад гэты Камітэт сам не хацеў, з намі блёкавацца, бо нікожі аб гэтым хаценьні не заявіў у прэсе, а на словах прадстаўнікі ягоныя неаднойчы выказывалі сваю адмову блёкавацца з намі".

Гэтак пісаў Янка Станкеўчык у сваім органе „Народ".

Перадусім мы відзім, што з Янкам Станкеўчыкам ніхто не хацеў блёкавацца. Ані „Грамада", як кажа Станкеўчык, ані Аб'яднаны Беларускі Камітэт. Так што Станкеўчык астаўся сірацінкаю, як бярозка ў полі...

І праўда, мы не хацелі і не прынялі да блёку Станкеўчыка, а чаму ня прынялі, дык чытачы даведаюцца з таго пісьма ў рэдакцыю, якое зьмяшчаем ніжэй. Пісьмо гэтае пісана інструктарамі Янкі Станкеўчыка, дык дзеля гэтага набіраюць асобага значэньня.

### Налгаў і то зусім па-дурному.

У № 4 „Сілы Працы" нейкі Васіль Скурка з Глыбокага зьмясьціў ліст, у якім ён піша, што без яго на гэта згоды Блёк нацыянальных меншасьцяў, выставіў яго кандыдатам на сваім сьпіску. Скурка нават пратэстуе проці гэтага. Дзеля таго падаём да агульнага ведама, што Васіля Скуркі на сьпіску Блёку няма, яго ня выставіў Блёк. Так што Скурка налгаў і то, зусім па-дурному. І мала таго што налгаў, але-ж ашукаў сваіх прыяцеляў з „Сілы Працы", Ашукаў іменна іх, а ні каго іншага, падаючы без патрэбы дурное і навылет ілжывае запярэчаньне. Каму і на вошта яно патрэбнае?

### Праўда „Сілы Працы".

„Сіла Працы" знайшла залезка, тое залезка якому дурань радуецца, як добрай рэчы. Чытаем у № 4 заметку аб б. паслу Сабалеўскім. Але-ж і сюды мах і туды, ды ўсё сабе па зубах, гэтак робяць кіраўнікі „Сілы Працы". Беларускае грамадзянства хіба-ж ужо даўно ведае, што п. Сабалеўскі адыйшоў ад палітычнае працы. Аб гэтым ён заявіў тагды, калі парваў з Ваявудчынай. Аднак-жа не пераставаў, здаецца, працаваць наколькі магчыма на культурнаасьветнай і грамадзкай беларускай ніве.

Вось і ўся праўда аб тым, што Сабалеўскага няма на сьпіску кандыдатаў у Сойм. Нашто гаварыць інакай, ведама толькі „Сіла — працаўніком": ці ня помста гэта якая?

### Ёсьць па кім страляць.

Кіраўнікі „Сілы Працы" увесь час са сваей „цяжкае артылерыі" бухалі па лідэрах Беларускаго Сялянскага Саюзу. Армія „Сілы Працы" была тагды не абы-якая. Але-ж падышлі выбары і рады парадзелі. Янук Станкеўчык, Чатырка і з імі некалькі яшчэ правінцыяльных б. грамадзістаў перайшлі пад сьцяг польскіх дэмакратаў гатунку „Кур'ера Віленскага". Сабалеўскі прыстаў да Бел. Цэнтр. Аб'ядн. Выбарнага Камітэту. Коўш—да праваслаўнага мітрапаліта. Уласаў прыхіліўся да Пэпээс —правіцы, выставіўшы свой уласны сьпісак па Віленскаму вокругу ў Сэнат.

А на астатку былы дырэктар гімназіі Р. Астроўскі далучыўся да Чатыркі і Станкевіча. Вось, дык сэнсацыя!...

Так што цяпер ёсьць па кім страляць „Сіле Працы" са сваей цяжкае артылерыі. Пацеюць мэнкі ды пекачы!...

### Камунікат Б. Ц. А. В. К.

Гэтым падаецца да ведама, што пасьведчаньні Беларускага Цэнтральнага Аб'яднанага Выбарнага Камітэту блёку нацыянальных меншасьцяў, выданыя Аляксандру Вяршыцкаму і Уладзімеру Панько на права прадвыбарнае працы, — уневажняюцца.

### Беларусам не па дарозе з „Вызваленьнем".

У Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт Блёку Нацыянальных Меншасьцяў паступіла заява наступнага зьместу:

„Я, ніжэйпадпісаны, Іван Гладкі, інструктар „PSL—Вызваленьне", пераканаўшыся, што Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Камітэт Блёку Нацыянальных Меншасьцяў зьяўляецца адзіным абаронцам Беларускага Народу—будучы сам Беларусам, выходжу з партыі „Вызваленьня". Прашу Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт Блёку Нацыянальных Меншасьцяў прыняць мяне ў лік сяброў-працаўнікоў Камітэту.

Заклікаю гэтым самым усіх сваіх знаёмых, сяброў „Вызваленьня", — парваць усякія зносіны з гэтаю шкоднаю для Беларусаў партыяю.

Іван Гладкі.

Вільня, 13 лютага 1928 г."

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Просім надрукаваць у сваей паважанай газэце ніжэй паданае:

Мы ніжэйпадпісаныя, Шавэйка Каз. і Атрашкевіч Якуб, будучы з 22 студзеня да 15 г. лютага выбарнымі інструктарамі на Віленска-Троцкі павет, ад гэтак званага „Камітэту Сялянства і работніцтва", назову якога ўжывае Янка Станкевіч, пазнаёміліся з дзейнасьцю Станкевіча і пераканаліся, што ён не зьяўляецца тым, чым рэклямуецца. Нам ведама, што Янка Станкевіч плаціць сваім інструктаром вялізарныя грошы. Ясна, што гэтыя грошы атрымаў Янка Станкевіч ад нейкіх цёмных сілаў. А дзеля гэтага самага ня хочам выконваць яго прадажніцкае працы, шкоднай беларускаму працоўнаму народу і ад працы ў Станкевіча адмаўляемся.

Горача заклікаем усіх тых, хто яшчэ дагэтуль не зразумеў Янку Станкевіча і працуе ў яго крамцы, паверыць нашаму перакананьню і ўва імя дабра працоўнага народу пасьледаваць за намі.

Не квапцеся на грошы Янкі Станкевіча, гэта — Мамона і аблуда! Трэба памятаць аб бедным і гаротным Народзе.

К. Шавэйка.
Я. Атрашкевіч.

16-II-1928 г.

**Грамадзяне Беларусы! Галасуйце за сялянска-работніцкі сьпісак 18**

## Вызвольны рух у Індыі і „Магары".

Час ад часу, а цяпер дык і вельмі часта, у газэтах пачалі зьяўляцца весткі аб неспакойстве ў Індыі, якая знаходзіцца пад пратэктаратам (апекаю) Англіі. Неспакойства гэнае ёсьць ня што іншае, як праявы імкненьня да волі індускага народу. Гэта выбухі нездаваленьня з ангельскага гнёту, які цісьне Індусаў ад XVI веку. Англія гэта добра разумее і стараецца злагодзіць хоць вонкавыя праявы гэнага нездаволеньня.

Нядаўна ангельскі парлямант выслаў у Індыю спэцыяльную камісію пад кіраўніцтвам праўніка Саймона—з мэтаю ў працягу 2 гадоў абсьледаваць на мейсцы, як дзее закон 1909 г., які даравў Індусам прадстаўніцтва. Калі прадстаўніцкія палаты гэныя дзеюць добра і калі жыхарства Індыі прыняло прынцыпы самаўрадаваньня, дык у 1929 г. цяперашні закон будзе пашыраны ў тым кірунку, каб Індыя атрымала такую-ж аўтаномію, як Аўстралія або Канада. Але на подзіў, ня толькі буржуазіі Англіі, але і усяго сьвету, тэлеграф аднойчы прынёс вестку, што частка жыхарства Індыі пастанавіла ня прымаць удзелу ў гэтай камісіі дзеля таго, што яна складаецца толькі з сяброў ангельскага парляманту. У гэнай камісіі ня толькі няма прадстаўнікоў Індусаў, але і пытаньня ня было аб якім-колечы супрацоўніцтве з прадстаўнікамі —Індусаў. Зразумелым становіцца байкот гэнае камісі пэўнаю часткаю Індусаў. Гэная падзея, як і зазначана, мае цесную сувязь з усё нарастаючым імкненьнем Індыі вызваліцца з-пад ангельскага гнёту. Індыя вялікі край, у якім жыве больш 300 мільёнаў чалавек, якія здаўна падзелены на розныя клясы—касты. Гэных кастаў у Індыі па перапісу 1901 году было 2378! Некаторыя касты лічаць мільёнамі сваіх сяброў, а некаторыя толькі тысячы. Каста—гэта ёсьць згуртаваньне людзей аднаго і таго роду заняткаў, якія маюць свае агульныя правы. Каста—гэта стан, „сасловіе", вельмі падобны да прафэсыянальнага саюзу, аднак-жа каста розьніцца ад яго тым, што чалавек родзіцца, жыве і ўмірае ў касьце, ня маючы ні права, ні магчымасьці выйсьці з яе. Усе касты разам узятыя дзеляцца на вышэйшыя, ніжэйшыя і „адкінутых" (паіндуску „магары").

Пытаньне аб вызваленьні Індыі ўвесь час круціцца каля гэных кастаў, асабліва-ж каля ніжэйшых і „адкінутых" дзеля чаго і цікава бліжэй прыглядзецца да гэных кастаў ды іх жыцьця ў сучасны момант.

Спачатку трэба зазначыць, што сяброў з кастаў „магараў" у Індыі цяпер болей 60 мільёнаў. Жыцьцё ніжэйшых кастаў вельмі сумнае. Ні рэлігія, ні грамадзянства не выяўляе да іх ніякае жаласьці і нічуць не клапоцяцца аб тым, каб палепшыць становішча „магараў". Вышэйшыя касты, якія дамагаюцца цяпер „сварадж" (поўнага самаўраду для Індыі), але з такім варункам, каб уся ўлада была ў іх руках, вельмі зацікаўлены ў тым, каб становішча „магараў" асталося без перамены. Калі ня будзе „магараў", дык хто-ж будзе выконваць нячыстыя, брудныя, гадкія работы? — вось галоўнае пытаньне, пытаньне ўсіх індускіх „лібэралаў" з вышэйшых кастаў. Вышэйшыя касты вельмі баяцца, каб „магары" не атрымалі ўсіх правоў і цераз гэта не зрабіліся-б канкурэнтамі на пасады судзьдзяў, адвакатаў, дактароў, урадоўцаў — якія трымаюць у сваіх руках вышэйшыя касты, ведама, са згоды і пад наглядам Англіі.

Індус — інтэлігэнт, які на-зубок ведае Маркса, закруціца жэўжыкам, калі яго запытаць: „Ці маняцца староннікі „сваража" зьніштожыць касты?".

Для лепшага кіраўніцтва, Індыя падзелена на прэзыдэнцтвы, па нашаму на ваяводзтвы. І вось, у Мадраскім прэзыдэнцтве налічваецца нешта каля 6 мільёнаў магараў на 38 мільёнаў усяго жыхарства.

Падмятайла вуліцаў, напр., павінен да сьмерці быць падмятайлам. Калі ён мае сына, дык і сын павінен быць падмятайлам і абязаны жаніцца толькі на дачцы падмятайлы. Калі ў падмятайлы вуліцаў ёсьць дачка, дык ён мае права выдаць дачку замуж, але... за падмятайла вуліцаў. У месьце Траванкоры, напр., і да гэнага часу „парыя" (асобая каста), убачыўшы за 60 крокаў брáміна (вышэйшая каста духоўнікаў), павінен зысьці з дарогі, каб не апаганіць яго сваім зрокам. Усе рэчы чалавека аднэй касты лічацца нячыстымі, паганымі для чалавека з іншай касты.

Магар, перасяліўшыся ў другую правінцыю і старанна хаваючы свой стан, можа заняцца другою работаю, але пад вечным страхам быць выкрытым. Вось правы і жыцьцё магараў.

Магары даўно ўсьвядомілі сабе сваё паніжанае палажэньне і стаяць на баку Ангельцаў, якія для іх будуюць школы і памагаюць палепшаць матэрыяльнае палажэньне.

Ведама, што такая апека над магарамі вядзецца з мэтаю мець абаронцаў ангельскае „культуры" проціў прадстаўнікоў вышэйшых кастаў, якія імкнуцца пакуль-што да „сварадж" (поўнага самаўраду для Індыі). Цераз школы, пабудаваныя Ангельцамі, за апошнія 40 гадоў прашлі мільёны дзяцей магараў. Найбольш здольныя дзеці, пакінуўшы потым сваю акругу, дабіліся сярэдняе і, нават, вышэйшае асьветы; але для прадстаўнікоў вышэйшых кастаў гэныя адукаваныя „пары" усё-ж такі астаюцца ніжэйшымі і нячыстымі істотамі. Сьмелыя рэфарматары іншы раз паднімалі свае галасы аб зьніштажэньні кастаў, але гэныя паасобныя галасы патапалі ў моры спапярэдлівасьцяў і забабонаў.

І вось цяпер, калі індуская інтэлігэнцыя („бабу") пастанавіла байкатаваць ангельскую камісію, у Алагабадзе адбыўся ўсеіндыйскі „Адзі-Гінду" г. ё. кангрэс прадстаўнікоў усіх „адкінутых" кастаў. Кангрэс цягнуўся некалькі тыдняў. Старшыня кангрэсу Гаван (магар з унівэрсытэцкаю асьветаю) вытлумачыў дэлегатам, што абароны яны могуць чакаць толькі ад ангельскага парляманту. У рэзалюцыі кангрэсу выражаецца лёяльнасьць магараў да Англіі і падзяка за тое, што Англія зрабіла для магараў. Як бачым, дык Англія вельмі спрытная.

## Што дзеецца ў сьвеце?

### Усюды „Камуністыя".

Мусіць няма на сьвеце такога краю, дзе-б ня было „камуністых", якіх... судзяць і судзяць тыя, хто пануе над гэтым краем.

13 лютага ў месьце Сэуле (сталіца Карэі, якая раней была незалежнаю дзяржаваю, цяпер-жа знаходзіцца пад „пратэктаратам" Японіі) закончыўся вялікі судовы „камуністычны" працэс, які цягнуўся некалькі месяцаў. 84 „камуністых" засуджаны ў вастрог ад 6-ці месяцаў да 6-ці гадоў. І... толькі 12 апраўдана. Судзіў іх японскі суд, дык і ня дзіва, што асуджаныя Карэйцы... камуністыя.

### Грыгар'янскі каляндар у праваслаўнай цэркві.

Праваслаўны царкоўны кангрэс, які адбываецца ў Александрыі (Эгіпет) вынес пастанову ўвясьці грыгар'янскі каляндар (новага стылю). Гэтая рэформа, аднак, будзе ўведзена з днём 1 кастрычніка с. г.

Да гэтага часу, як ведама, праваслаўная царква карысталася Юльянскім календаром, які ўведзены яшчэ за 45 гадоў да нараджэньня Хрыста.

### Дзесяцігодзьдзе Незалежнасьці Літвы.

16 лютага б. г. прыпадалі ўгодкі дзесяцігодзьдзя Незалежнасьці Літвы. Дзень гэты адзначыўся, асабліва ў Коўне, пышным сьвяткаваньнем.

### РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

—Старшыня „Реввоенсовета" Варашылаў уволіў з чырвонай арміі 86 старэйшых камандзіраў, якія зьяўляліся гэнэраламі і старэйшымі ахвіцэрамі царскай арміі.

— Апошнімі днямі ў паўдзённай Францыі шалелі страшэнныя буры, якія прычынілі многа матэрыяльных шкодаў. Маюцца, нават, і чалавечыя ахвяры.

— У сувязі з дэманстрацыямі проці францускага прэм'ера Пуанкарэ дакавана шмат арыштаў эльзаскіх аўтаномістых і камуністых.

— Каля места Дудэнгофэн (Францыя) 9 лютага наскочылі адзін на другога два трамваі, увыніку чаго забіта 18 чалавек і ранена 4.

— 12 лютага ў Бэрліне пачаліся эканамічныя перагаворы паміж Нямеччынаю і СССР.

— Па распараджэньню Чан-Кай-Шэка атрад нацыянальнага войска заняў ангельскае консульства ў Нанкіне, а такжа іншыя будынкі — уласнасьць консульства.

— У Індыі, на граніцы Афганістану і Белуджыстану выбухла паўстаньне тубыльцаў, скіраванае проці ангельскае ўлады.

— У Грэцыі стварыўся новы кабінэт Заініса.

# З жыцьця Польшчы.

### Турботы і дбаласьць.

Міністэрства ўнутраных спраў прырыхтавала праект распараджэньня прэзыдэнта аб ахове жывёлы. Распараджэньне гэтае мае на мэце ахову жывёлы ад зьдзекаў над ёю і прадбачыць кары за нарушэньне адпаведных „пшэпісаў“. У распараджэньні прадбачаны ўсе падрабязнасьці зьдзекаў над жывёлаю, як абцяжаньне вазоў, праца хвораю жывёлаю, розныя досьледы над ёю, за выняткамі досьледаў навуковых і г. д.

### Ліквідацыя „камуністых“ у Галіччыне.

У сувязі з апошнімі арыштамі „камуністых“ у ліку каля 50 асобаў на абшарах Малапольшчы і Валынскага ваяводзтва, ідзе далейшая ліквідацыя „камуністычнае арганізацыі Заходняе Украіны“. Польскія газэты пішуць, што асяродак гэтай арганізацыі месьціўся ў Луцку і на чале яе стаялі быўш. украінскія паслы: Чучмай і Казіцкі.

10-га лютага паліцыя ў Луцку арыштавала каля 15 чалавек, у тым ліку і б. паслоў Чучмая і Казіцкага.

У Львове „дадаткова“ арыштавана яшчэ 5 асобаў.

У Тарнаполю, Станіслававе, Бродах „również aresztowano kilkanaście osób“.

### Цікавая канфіската.

№ 38 „Dziennika Wileńskiego“ падае вестку, што за рэляцыю аб мітынгу сканфіскавана газэта „Warszawianka“. Але гэта ня цікава, калі пануе мода на канфіскаты. Цікава тое, што „Warszawianka“ сканфіскавана ...цераз 36 гадзін пасьля выхаду яе ў сьвет і—толькі 20 нумароў.

### Арыгінальная небясьпека.

Польская газэта „Dzien.Wil.“ піша, што ў Варшаве адзін выбарны камітэт вывесіў на сваім бальконе плякат, які вечарамі прасьвятляўся электрычаствам. Гэта заўважыла паліцыя і патрэбавала зьняць яго, але камітэт запрагэставаў. Цераз паўгадзіны пасьля гэтага паліцыя прынясла ў камітэт вось якую паперку: „Па распараджэньню Камісара Ўраду на м. Варшаву загадваецца зьняць з балькону дому пры вул. Новы Сьвет № 12 плякат... як пагражаючы публічнай бясьпечнасьці“.

### Нота Польшчы Літве.

11-га лютага польскі ўрад пераслаў літоўскаму дыктатару Вальдэмарасу ноту-адказ на яго ноту ад дня 16 студзеня 1928 году. У пераслапай ноце польскі ўрад канкрэтна пытаецца, ці хоча літоўскі ўрад зараз-жа распачаць перагаворы з мэтаю навязаць добрыя суседзкія адносіны між Польшчаю і Літвою.

### Павышшэньні рэзэрвавых ахвіцэраў.

Вайсковыя колы разглядаюць цяпер праект павышэньняў у наступны службовы ступень рэзэрвавых ахвіцэраў, якія ад часу дэмабілізацыі ў 1921 годзе не павышаліся.

### Польскія эмігранты ў Бразыліі.

Замежныя газэты пішуць, што бразыльскі ўрад пастанавіў забараніць прымаць польскіх эмігрантаў (выхадцаў) у Бразылію. Гэту забарону бразыльскі ўрад матывуе тым, што польскія перасяленцы зьяўляюцца вельмі нежаданым элемэнтам дзеля таго, што яны непраматныя, нізкае культурнае роўні і... камуністычнага настрою.

### Цывілізаваны дзікар.

У Лодзі застрэліўся вядомы шырокім „колам“ прамысловец, Нэйгэбаўэр.

Самагубства гэтага пана выклікана тым, што адзіная яго дачка хацела выйсьці замуж за аднаго работніка той фабрыкі, уласьнікам якой быў Нэйгэбаўэр. Бацька выкарыстаў усе сродкі ўплыву на „шалёную“ дачку і ня мог заставіць яе адмовіцца ад шлюбу з работнікам... У канцы канцоў—сам застрэліўся.

„Вышаў з чэсьцю з труднага палажэньня“—як кажуць падобныя яму паны.

# НАВІНЫ.

— **Асуд беларускіх „камуністых“ у Навагрудку.** Апошнімі днямі Навагрудзкім Акружным Судом разглядалася справа 24 беларусаў і жыдоў, вінавачаных ў прыналежнасьці да камуністычнае партыі Заходняй Беларусі.

Засуджаны: Б. Вавэнік, М. Будаль, П. Жалезьнякевіч, У. Царук, С. Нос, К. Юрыс і К. Вільнэр—на 4 гады катаргі (ciężkiego więzienia), з пазбаўленьнем правоў стану і па 160 злотых судовых выдаткаў;

А. Бразоўскі, К- Царук, Я. Мокаш, У. Самец, С. Буховец і С. Гулькович—на 3 гады вастрогу;

Т. Рыбалтоўскі, М. Царук, Э. Бэрнак, С. Эр'яковіч, Л. Сташэўскі, Я. Парфімовіч і А. Юшка—на 2 гады папраўчага дому;

З. Судзько—1 год васрогу;

Апраўданы: С. Багель, Б. Янкоўскі і С. Змачынскі.

— **Арышт рэдактара „Сахі“.** Паліцыя арыштавала гр. Павалковіча, рэдактара беларускай вяскова-гаспадарчай часопісі „Саха“.

— **Загадковая сьмерць.** 7 лютага на магілках Роса знайшлі трупа маладога мужчыны. Цела яго было пакрыта ранамі, а на абодвых руках былі перарэзаныя артэрыі.

Выясьнілася, што быў гэта прадстаўнік выбарнага сьпіску № 13 (камуністыя) і што забойства мае палітычную падкладку.

— **Канфіската „Праваслаўнай Беларусі“.** Па загаду Камісара Ураду на м. Вільню аднachасна з канфіскатай „Бел. Крыніцы“ № 12, канфіскавана так жа часопісь Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня „Праваслаўная Беларусь“ № 4 (10) за стацьцю: „Блёк Меншасьцяў і Блёк супрацоўніцтва з урадам“. Рэдактар-выдавец Л. Голад будзе пацягнуты да судовай адказнасьці.

— **Спэктакль-вечарына Б. І. Г. і К.** У нядзелю 19-га лютага ў в. Шутавічах адбудзецца спэктакль-вечарына, ладжаная Б. І. Г. і К. Будуць пастаўлены п'есы: „Суд“ і „Боты“. Пасьля спэктаклю скокі да 4 гадзіны раніцы.

Пачатак вечарыны а 4 г. дня.

**Грамадзяне Беларусы! Галасуйце за сьпісак № 18**

# Гаспадарскі аддзел.

### Гутарка аб сяўбе.

Добрая выробка зямлі, умелая сяўба, вось дзьве работы, ад каторых залежыць ураджай.

Аднак у нас—ці мала такіх гаспадароў, каторыя вырабляюць зямлю абыяк, каторыя сеюць абы-як і абы-якім насеньнем.

Насеньне на пасеў павінна быць добра прарастаючае, добра перачышчанае, поўнае і цяжкое. Дзяды і прадзеды нашы ведалі, што якім зярнём пасееш, такое вымалачываць будзеш, і дзеля гэтага, у доўгія зімовыя вечары, выбіралі зярняты на насеньне рукамі.

Цяпер гэту мазольную ручную работу заступюць розныя, хітра прыдуманыя машыны да ачысткі зярня. Але машын гэтых у нашай старонцы мала: знойдзеш толькі дзе-небудзь у вялікім двары, па вёсках, хутарох і засьценках. Добра і гэта, але праз арфу і праз фухталь трэба зярнё па некалькі разоў прапушчаць, каб яно такі папраўдзе было адборнае, найлепшае.

І навука, і практыка паказалі, што буйнае зярнё родзіць гэтак сама,—буйныя зярняты.

Пара пасеваў у гаспадарцы—важнейшая ад пары жніва. Пасеяць, трэба ўлучыць у такі час, каб ні зарана ні запозна. Час пасеваў залежыць ад таго, ці вясна рана ці позна пачалася, дзеля гэтага, бязмала кожная ваколіца мае іншы час пасеву. Ня трэба зьвяртаць увагі на варажбу пагоды па календару, ні на маладзік, ані на поўню, бо толькі добра выробленая і ўгноеная зямля дае ураджай, а не варожкі. Зямля ў часе сяўбы павінна быць сыраватая, але ня мокрая, добра агрэтая сонцам і добра ўспаханая, каб да яе мелі доступ сонца і паветра. Пакуль зямля не абагрэецца, лішніца вады ня ўбярэцца ў зямлю, ды ральля ня зусім пухкая, то пасеў можа нізашто пайсьці. Раней можна сеяць на землях лягчэйшых—пяшчаных. каторыя скарэй абсыхаюць і аграваюцца. На зямлях цяжкіх, глiністых, трэба сеяць пазьней, бо ў гэтых землях доўга трымаецца сьцюжа і зарана пасеянае зярнё ў такую зямлю можа збуцьвець.

Найраней можна сеяць гарох, пасьля авёс, а ўжо ячмень трэба сеяць пазьней.

Колькі трэба высяваць? Гэта залежыць ад варункаў: — як ад дабраты зярня, гэтак сама і ад гатунку зямлі, спосабу пасеву і др. Чым зярнё лепшае, чым зямля багацейшая, тым менш трэба высяваць; на горшай зямлі трэба сеяць гусьцей, бо зярнё там слабей кусьціцца.

Пры ранньяй сяўбе трэба радзей сеяць, пры позьняй — гусьцей. Лішне густы пасеў—ня добра, бо тады насеньне само сябе глушыць, вылягае, дае дробнае зярнё; лішне рэдкі пасеў, гэтак сама ня добра.

Накаторыя гаспадары стаяць за рэдкую сяўбу; яны кажуць, што тады збожжа куды ляпей кусьціцца. Што ляпей кусьціцца—гэта праўда, але кусьціцца яно са шкодай для расьліны і са шкодай для ўмалоту. Рэдка пасеянае збожжа дасьпявае пазьней і не ў адзін час, бо з аднаго караня вырастае многа каласоў; але, дзеля таго, што бакавыя калівы пазьнейшыя, то яны не дарастаюць да старэйшых каліў і атрымліваецца зярнё не аднастайнае, бо з тых бакавых каліў зярнё бывае дробнае, лёгкае. Дзеля гэтага трэба сеяць сярэдне: ня лішне густа і ня рэдка, мяркуючы на якой зямлі і якім насеньнем сеем.

Ярына вымагае зямлі пухкай і чыстай ад зельля, а ў часе ўсходаў вымагае, каб было і шмат вільгаці ў зямлі. Дзеля гэтага, на ярыну поле павінна быць загараным з восені, а вясной, каб не перасушыць лішне зямлі, пушчаць толькі бароны, култыватары, спружыноўкі і інш. Знача, трэба старацца, каб вясной не араць пад ярыну зямлі.

Як толькі на вясну абсохне зямля, пушчаем бароны, ці спружыноўкі, пасьля сеем і зярнё прыкрываем цяжэйшымі, або лягчэйшымі баронамі, залежна ад зямлі.

Некаторыя гаспадары, пасееўшы зярнё, вальцуюць зямлю, каб усходы былі раўнейшыя. Вальцаваньне, рэч не благая, толькі пасьля вальца трэба пусьціць лёгкую барану, каб зямлю зьверху крыху ўзрыхліць, бо гэта бароніць зямлю ад высыханьня.

На цяжэйшых землях — ляпей за ўсё вясной па восеннай ральлі пусьціць амэрыканскую спружыновую барану, сеяць і прыкрыць насеньне лёгкай бараной. Толькі на цяжкіх глінах трэба і вясной плытка ўзараць зямлю плугам.

# Беларусы у Чэхаславакіі.

### Агульны сход Т-ва „Беларуская Рада“.

21-га студзеня 1928 г. адбыўся гадавы агульны сход Т-ва „Беларуская Рада“ у Праза-Чэскай. У новы прэзыдыум Рады былі выбраны гэтакія асобы: М. Вершынін—старшынёй, К. Сьцяпура—віцэ-старшынёй, І. Журэнкоў—сэкрэтаром. Кандыдатамі: Л. Рыдлеўскі і Ф. Клагіш, пры гэтым Рыдлеўскі прыняў на сябе абавязак скарбніка. У рэвізыйную камісію ўвайшлі: В. Лаўскі, В. Русак і А. Клімовіч.

### Агульны сход Віленскага Гуртка Інстыт. Гасп. і Культуры.

6 лютага с. г. ў памешканьні Бел. Інстыт. Гасп. і Культуры (Вострабрамская 8—1) адбыўся агульны сход 24 сяброў Віленскага Гуртка Гасп. і Культуры, на каторым адбыліся перавыбары ўраду Гурка і было абгаворана некалькі справаў.

У новы ўрад Гуртка тайным галасаваньнем выбраны: М. Маскалік, А. Чайкоў і Я. Найдзюк.

Сход пастанавіў арганізаваць пры Бел. Інстытуце Гасп. і Културы бібліятэку і адчыніць сваю чытальню ў гэтым-жа Інстытуце. Пастаноўлена так-жа арганізаваць струнную аркестру, купляючы неабходныя музыкальныя інструманты на дабравольныя складкі сяброў Гуртка і пабочныя ахвяры.

**Усе Беларусы будуць галасаваць за свой беларускі сьпісак № 18**

# Замест фэльетону.

### Мутная вадзіца з пахам гнільля.

На Беларусі, у Юраціскай воласьці, ёсьць фальфарак Яросьмішкі: там жыве Сьветавастокаў. Абодва гэтыя назовы, ня ведаю як у каго, а ў мяне выклікаюць цікавасьць, бо здаюцца мне — арыгінальнымі, а дзеля гэтага характэрнымі.

Аднак-жа для чытача яны больш нічога не гавораць... А калі так, дык я бяруся высьветліць справу. Але-ж перад гэтым падаю да ведама, што ў Вільні ёсьць „наўчоны сдадар“ Янка Станкеўчык, які мае тытул — місюгіны.

І вось, гэтыя дзьве асобы хацелі стаць — гістарычнымі і разумеецца, як і трэ'было чакаць, сталі гістарычнымі: мутнаю вадзіцаю з пахам гнільля.

Сьветавастокаў з Яросьмішак ужо мае 62 гады. Гэта ўрадовец — старога часу... Але-ж новы час не балуе „сьветавастокавых“. Ён для іх вельмі жорсткі.

Наперакор жорсткаму новаму часу дыхае аднолькавае жыцьцё, якое для чалавека пры яго існаваньні вымагае, як і вымагало: яды, піцьця і яшчэ шмат якіх рэчаў. Пры старым часе Сьветавастокаву ўсё гэта давалася за ўрадаваньне... а цяпер, брат, труба і праўда, Сьветавастокаў палез такі ў комін, каб вымазацца ў сажу.

Сучаснаю зімою настала лета, якое, каму больш, а каму менш, дасьць ураджай, Ясна, што хто жыў, усе кінуліся зьбіраць дабрадзействы залатой пары. Выбары ў Сойм!... Што гэта? Гэта вось і ёсьць тое лета, аб якім я толькі-што сказаў.

Для Белартса, тыпу Сьветавастокава, пры гэтым адкрылася магчымасьць зарабіць сотню злотых.,. Праварoніць нельга і грэх... Ну, а калі так, дык, Сьветавастокаў зразумеў, што ня трэба спаць у шапку...

Памятаючы ўсё гэта Сьветавастокаў адразу бухнуў пісьмы да ўсіх арганізацыяў, якія выступілі на выбары... Пералічым... Паўлюкевічаўская будка, Станкевічавая спадарка, Філіпа-Марозаўская мітрапалітрня... Усім і адразу Сьветавастокаў задэкляраваў пакору і пашану, аддаючы і розум і рукі, лаючы іншых.

Першаю на Сьветавастокавую кветачку села — спадаровая місюгіна. Другою — паўлюкевічавая конна-фэльчарка. Перацягнула апошняя.

З гэтага вывады: Далоў ідэалы, няхай жыве жалудак!

Бо-ж і праўда, што ідэалу не зьясі. Гэтак мне сказаў адзін чалавек і я прызнаў гэта слушным. Няхай жыве жалудак!...

Каб не пасудзілі мяне ў староннасьці таго, ці іншага, я даю слова самаму Сьветавастокаву. Гэтае слова зьявілася ў „Паўлюкевічанкі“ (Бел. Слова), якое пральле капельку сьвету і гэтакім спосабам стане відаць, што няма ідэалаў, няма чалавецтва, а ёсьць: мутная вадзіца з пахам гнільля.

Сьветавастокаў піша:

„Да мянэ прыперлі дэпэшу з под пісам Станкевіча, які просіць прыехаць да яго за яго кошт. Я падумаў: ну што-ж пагляджу, што гэта там за шышка такая... Паехаў, а там п. Станкевіч, не знаёмы і пры першым спатканьні прэ мяне ў Сэнат, кажучы, што ў яго няма адпаведных пажылых людзей, якія-б маглі прайсьці ў Сэнат, дык мы маем надзею на Вас. Ну добра, забачу, што будзе далей. У чужой хаце трэба слухаць гаспадара, каб яго ня скрыўдзіць. Папрасіў напісаць карэспандэнцыю і я яму пад хмяльком напісаў аж цэлых тры. Ня ведаю толькі, чаму ён зьмясьціў толькі адну,

Прыехаўшы да хаты, мяне надта мучыла суменьне, што я, быўшы пад хмяльком, пісаў глупствы на свайго паважанага павадыра п. Паўлюкевіча. Я пачаў думаць і мне здалося, што ў „Народзе“ ёсьць штосьці ня шчырае, ёсьць якаясь мана. Станкевіч пытаўся, ці я пайду куды, ці не? Я яму адказаў, што зайду да рэдакцыі „Саха“, хачу выпісаць гэтую газэту, але п. Станкевіч папярэдзіў мяне. Будзьце, кажа, асьцярожны, бо там ёсьць і дэфэнзыва, ёсьць, кажа, і камуністыя. Толькі нікаму і нічога не гаварыце, што былі ў нас. Пры гэтым усунуў мне 100 зл. ды сказаў, што гэта толькі на 2 тыдні, а 1 лютага ізноў атрымаеце. Акрамя таго 23 зл. 20 гр., што я заплаціў за цягнік. Цяпер я ніяк не магу зразумець, скуль у іх столькі грошаў, калі аднаму мне ўсунулі столькі, а колькі-ж ідзе на ўсіх! А ў газэце просяць ахвяраў і дастаюць па 1—2 з.

Я паслаў Станкевічу карэспандэнцыю дзеля таго, каб змусіць яго быць са мною аткрытым. Але я пераканаўся, што „Народ“ ня ідзе за Народ, а толькі за мандатамі. Толькі вельмі цікава, скуль у іх грошы? Бо Станкевіч казаў, што яны грошы маюць, не пашкадуюць — атрымалі!!!“.

Гэтыя словы характарызуюць самога Сьветавастокава... Але-ж больш яшчэ характарызуюць спадара Янку Станкеўчыка, які разводзіць мутную вадзіцу з пахам гнільля!...

**Яр.**

**Беларусы, хто хоча роднае школы, галасуйце за № 18**

# ВЕСТКІ З КРАЮ.

### Мітынг у Бярэзе-Картускай.

9-га гэтага лютага ў м-ку Бярэзе-Картускай адбыўся мітынг Блёку Нацыянальных Меншасьцяў.

Дзень быў торговы і спора было сялян з далёкіх вёсак, але не абышлося і без асаднікаў, шпікоў і нанятых за грошы і гарэлку авантурнікаў.

Мітынг адчыніў сябра Белар. Акр. Аб'яд. Выбар. К-ту С. Салавей, які ў кароткай, але сільнай прамове вытлумачыў значэньне для беларускага селяніна і работніка сёлетніх выбараў у Сойм і Сэнат і высказаў, як трэба адносіцца да агітацыі іншых не-беларускіх і прадажных, быццам, беларускіх партыяў.

Гр. Салавей гаварыў аб крыўдах беларускага працоўнага народу, якія зроблены яму штучным падзелам беларускіх зямель на акругі і абводы і аб канечнасьці ісьці на выбары супольным фронтам з іншымі, таксама пакрыўджанымі нацыянальнымі меншасьцямі.

Прамову гр. Салаўя некалькі разаў перарываў кам. Бярэскага пастарунку, але прамоўца давёў яе да канчатку, заклікаючы ўсіх прысутных да аб'яднаньня пры Блёку Нацыянальных Меншасьцяў.

Наступным прамаўляў паукраінску Сябра Украінскага Акр. Аб'ядн. К-ту ў Берасьці, гр. Гаршчарук, які ў балей абшырнай прамове высьветліў гаспадарчае і сацыяльнае палажэньне Украінскага і Беларускага Народаў у Палескім Ваяводзтве; абрысаваў культурна-прасьветнае разьвіцьцё двох родных, сумежных народаў, выказаў тыя крыўды і балячкі, якія робяцца ім, дзякуючы іх цемнаце, несьвядомасьці і неарганізаванасьці,—ворагамі сялянскага дабрабыту; разьясьніў неабходнасьць Блёку агульна і паасобна ў Берасцейскай і Пінскай акругах. Усе свае вывады гр. Гаршчарук падцьвердзіў статыстычнымі (цыфравымі) дадзенымі. У канчатку сваей прамовы гр. Гаршчарук зазначыў, што паасобныя сьпіскі кандыдатаў народнае меншасьці не правялі-б столькі паслоў, колькі ім належыцца.

Падчас прамовы гр. Гаршчарука 2 сялян з Бярэзы-Картускай: Велісевіч Віктар і Крыніцкі, спэцыяльна падасланыя праціўнікамі блёку пачалі тузацца і рабіць крык. На заклік прысутных сялян паліцыя іх арыштавала, але праз 20 мін. яны ізноў зьявіліся ў гушчы сялян. На гэты раз яны пачалі распіхаць прысутных, а потым завялі бойку, у катарай пакрыўдзілі селяніна Паўлу Труцько. Гэтым нанятым авантурнікам памагалі сарваць мітынг, апрача асаднікаў, і дэлегаты Р. Н. О. з Берасьця, каторыя прыехалі рабіць быццам свае мітынгі.

Ганьба прадажным сялянам! Ганьба цывілізаваным палітыкам з Р. Н. О.! Ганьба дабрадзею Лосеву—другому кандыдату па сьпіску Р. Н. О. № 20 па Берасьцейкаму вокругу!

Беларусы, сяляне і работнікі! Дабрадзеі Каралі і Лосі з Р. Н. О., разганяючы вас, ці-ж будуць яны бараніць вашы справы ў Сойме і Сэнаце? Пэўна, што не!...

Усе галасуйце за сьпісак Блёку Нацыянальных Меншасьцяў, за № 18. Як і ў папяреднія выбары, толькі сьпісак Блёку Нац. Менш. правядзе ў Сойм і Сэнат праўдзівых абаронцаў сялянскіх і работніцкіх інтарэсаў.

Прысутны.

### Узяліся не на жартачкі.

Мала дзе ёсьць рызыкаўнейшых камэрсантаў, як у м-ку Даўгінаве, але і мала-ж дзе ёсьць акуратнейшых, як у ім і польскіх урадоўцаў, так што беларускаму духу там і ня пікні. Атрымаць беларускую газэту праз Даўгінаўскую пошту — трэба лічыць вялікаю ласкаю паштароў. А папробуй толькі куды паскардзіцца, дык зараз-жа—пазнаёмішся з нечым іншым... А паштары, што далей—ўсё новыя штукі выкідваюць.

Так, напрыклад, 5 студзеня с. г. была паслана ў рэдакцыю „Сялянскай Нівы" заява аб высылцы ў вёску Дуброўка, Браніславу Станкевічу, пробнага нумару гэтай газэты. Цераз нейкі час Станкевіч, праўда, атрымаў газэту, але... „Экспрэс Віленскі" № 80358, дый-то ў абвёртцы, з адзнакамі абарванай паперкі на газэце, нейчыйга другога адрасу. Выпісаная раней у тую-ж вёску праз пошту Даўгінава ў 3 экз. „Сялянская Ніва", да 28 студзеня ня была атрымана. Мусіць, усё скіравана на тое, каб зусім зьнішчыць успамін аб беларускасьці і заглушыць сьвядомасьць адносна будучых выбараў. Але, за позна ўхваціліся за гэта, бо народ ужо добра ўсё зразумеў. Мала, а можа і нічога не памогуць і ўгаворы даўгінаўскай адміністрацыі на сабраньні 1 лютага ў памешканьні воласьці, адносна галасаваньня за абшарніцкі сьпісак № 1. Але... сярмяга сярмягу лепш зразумее, чым сурдут--сярмягу.

Оіе.

### Забыты і забіты куток.

Нідзе, здаецца, на нашай Заходняй Беларусі няма такога цёмнага, мядзьвежага кутка, як Дараўская воласьць, асабліва-ж вёскі: Сваятычы, Валасачы, Пранчакі, Станчыкі, Ведзьма, Навасёлкі, Падлесьсе, Пуштукі, Вашкаўцы, Краглі і г. д. За ўвесь час беларускага руху сюды не даляцеў прамень сьвету. Тут ня толькі нідзе няма якой-небудзь беларускай арганізацыі, ня чутно аб беларускай вечарыне, чытальні-кніжніцы, але ніхто нават не атрымоўвае беларускае газэты. Тутака беларускіх газэтаў баяцца, як агню, як халеры. Калі хто, часамі пападзе беларускаю газэту, дык чытае яе, хаваючыся, як праклямацыю, а прачытаўшы скарэй кідае ў печ, каб хаця не даведаўся пастарунак, або поп ці ксёндз. Апошнія, тутака страшаць Беларусаў пеклам, толькі пакорным і паслушным сабе авечкам дакляроўваюць на тым сьвеце рай (для сябе-ж яны заўсёды маюць рай на зямлі).

У гэтым няшчасным кутку ня толькі ня ведаюць, за каго, ці за які № галасаваць, але ня ведаюць, дзе іх абвадовая выбарная Камісія ў сваей воласьці, у якой трэба будзе аддаць свой голас 4 і 11 сакавіка. Многія-ж зусім ня думаюць галасаваць і кажуць: „Нічога нам не далі белар. паслы ў першым Сойме, нічога не дадуць і цяпер". Праўда, што бел. паслы адразу не далі нам таго, за што мы вядзём барацьбу, але тут мы самі вінаваты, што правялі ў Сойм і Сэнат усяго 14 бел. паслоў, калі іх трэ' было-б правясьці больш за 30. Мы аддалі галасы чужым ашуканцам, каторыя перад выбарамі давалі нам нябесныя мігдалы, а пасьля — сталі нашымі ворагамі, з каторымі не магла барукацца жменя шчырых нашых барацьбітоў. Але, скажу вам, белар. паслы зрабілі вельмі многа, хоць іх было мала: яны зрабілі тое, што нас Беларусаў, перасталі лічыць за нябошчыкаў, з намі сталі лічыцца, як з Народам. Ня будзь-жа нашых паслоў — пра нашу Беларусь ужо і куры не пялялі-б. Цяпер, калі не правядзём у польскі парлямант сваіх сумленных і шчырых людзей, можа стацца для нас яшчэ гарэй. Не чакайце, браткі і сястрыцы, што вам хто-небудзь скіне манну з неба, ня думайце, што хто-небудзь парупіцца аб вас, закрычыць аб вашых крыўдах, аб вашых балячках, калі вы самі будзеце спаць і ня ведаць, каго пасылаць у Сойм і Сэнат для абароны вашых інтарэсаў.

Час, браткі, прачнуцца, схамянуцца і зірнуць на сьвет. Час ляціць і нас не чакае. Трэба каваць залеза, пакуль горача, а кожны сам свайго шчасьця каваль.

Беларус! брат, ня сьпі
Доўга й многа ты спаў,
Навакол паглядзі —
Важны момант настаў!
Як упусьціш яго
Будзем зноў гараваць.
Што-ж нам прыдзе з таго —
На чужых працаваць.
Хлопцы! Цесна ў гурткі,
Хутка сходзьцеся ў нас,
Жыва к працы, браткі,
Шчасьце будзе для вас!
Дабрабыт — так і знай,
Станем самі тварыць,
Родну мову, наш край
Будзем мы бараніць.
Будзе шчасьце ў краю:
Будзём ўсе шанаваць
Беларусь мы сваю
І ёй песьні пяяць...
А цяпер, мой браток,
Каб ня згінуў наш край,
За 18-ы нумарок
Свой ты голас аддай!

Тутэйшы.

### Голас з вёскі.

(в. Дабучын, Пружанск. пав.).

Куды гэты Станкевіч толькі ня соўваецца! Вось і ў нас апошнімі днямі, ён столькі напхаў свайго „Народу", што прайсьці ня было дзе. Проста такі, пукамі валяўся Станкевічаў „Народ", як калісьці „Беларускі Дзень" Умястоўскага. Мусіць Станкевіч пакумаваўся з Умястоўскім, які паказаў яму на „пэўнае" месца, дзе „Народ" вырабіў-бы прыхільнасьць да Станкевіча. Але... Умястоўскі, мусіць, забыўся аб лёсе свайго „Дня", а Станкевіч дык з глузду зьехаў.

Пане Станкевіч, ваш „Народ" валяўся пукамі і... ніхто яго не ратаваў, ніхто яго не паднімаў. Ідзеце самі ратаваць, бо... „Народ" марне пагіне і ня дасьць вам аніякае карысьці

Але трэба вам сказаць, што ў нас сяляне добра ведаюць вашую працу, ведаюць, што ваш „Народ"—прадажніцкі і выдаецца, каб разьбіць галасы сялянства пры выбарах у Сойм і Сэнат, сяляне ведаюць, што ваш „Народ" падтрымліваецца панскімі грашыма, дык ня дзівецеся, што яны адвярнуліся ад „Народу".

Так, п. Станкевіч, Беларусам ніякага „Народу" ня трэба, бо яны ведаюць, каму аддаць свае галасы. Калі-ж ваш „Народ" гэтага ня ведае, дык скажу — Беларусы будуць галасаваць за сьпісак № 18!

Малады Крывіч.

**Беларусы, Сяляне і Работнікі!**

**18**

**гэта адзіны беларускі сьпісак, за каторы Вы павінны галасаваць.**

### Голас Лебедзеўшчыны.

(Маладэчанскі павет).

Нейк на абшары Лебедзеўскай воласьці зьявіўся „доктар" Паўлюкевіч, з сваім неразлучным сябрам Вярнікоўскім. Як толькі сутыкнуліся яны з сялянамі — зараз-жа Паўлюкевіч пачаў сьпяваць ім, што ён працуе для сялянства, каб палепшыць ягонае жыцьцё, каб даць „Прасьвету" працоўным гушчам і г. д. Наслухаўшыся пекных слоў Паўлюкевіча, сяляне Лебедзеўскай воласьці хапіліся за „Прасьвету", як за галінку: валам павалілі сябрамі, але... хутка затрымаліся і сталі разважаць аб самой гэтай „Прасьвеце". Думалі, гамавілі, пыталіся адзін другога і ўканчатку раскусілі, што „Прасьвета" зьяўляецца замаскованым ашуканствам. Сяляне хутка ўбачылі і праканаліся, што Паўлюкевічаўскія агенты, гатовы родную матку прадаць, абы толькі грошы...

Не дарма-ж візытаваў Лебедзеўскую воласьць пан Паўлюкевіч. Пасьля яго асталіся „закалённыя" 2 сябры Лебедзеўскай „Прасьветы", якіх Паўлюкевіч выбраў сваімі інструктарамі, (праўдзівей — шпіёнамі). Гэтым інструктаром „кіраўнік „Прасьветнага" прадпрыёмства" плаціў добрыя грошы. І вось увесь час, калі ішла інструктаром пэнсія — яны нават і добра „працавалі", прадавалі людзей і ганьбілі Беларускае імя. Але, калі спынілася пэнсія — дык гэтыя верныя Паўлюкевічаўскія служакі ўжо ганьбяць самога Паўлюкевіча.

Браты, Беларусы, ніколі шыла ў мяшку ня ўтоіцца: усё-роўна вытыркнецца недзе! Базюр.

### Выбарныя развжаньні.

Аднойчы ў мяне быў грамадзянін з Ваўкалацкай гміны, з якім гутарылі аб наступаючых выбарах. Спачатку гаварылі спакойна, згаджаючыся адзін з другім у слушных месцах і гэтак дайшло да гутаркі, за каго маем галасаваць, каб нас ня крыўдзілі людзі, прайшоўшыя ў Сойм і Сэнат. Свайму субясёдніку я даводзіў, што нам, Беларусам — сярмяжнікам, трэ' галаваць за № 18, бо толькі гэтыя людзі, каторыя выставілі сьпісак № 18 абаранялі, абараняюць і будуць абараняць інтарэсы працоўнай масы. Іншыя-ж нас ашукаюць, як ашукала ў папярэдніх выбарах „Вызваленьне".

І сапраўды! Што-ж тыя вызваленцы, каторых мы сваімі галасамі прапхнулі ў Сойм і Сэнат, што яны нам добрае зрабілі? Кожны сьведамы Беларус ведае, што вызваленцы стараліся дагадзіць паном ды графом і г. д. Пры канцы гутаркі даю свайму субясёдніку „Сял. Ніву", „Плятформу" і „Выбарную інструкцыю". „Маеш, кажу", занясі ў сваю старонку, няхай там пачытаюць сяляне, мо' даведаюцца, за каго ім трэ' галасаваць!". Як пачуў гэта мой госьць, раптам зьбялеў і затросься, як асіна, і ледзьве прагаварыў: „Гэта-ж... Беларускія, мяне могуць арыштаваць... У нас няма іх, і ніхто не бярэ ў рукі беларускага".

Дык вось, да чаго застрашаны наш селянін! Сваей газэткі, у сваей роднай мове баіцца ў рукі ўзяць! Дзе-ж спадзявацца арганізацыі, ці можна з такімі людзьмі весьці барацьбу за лепшую будучыню? О! не! —

Стыдаюся, нават, пісаць аб гэтым. Страх агортвае, калі ўспомніш гэтае здарэньне! Эх, сяляне, сяляне! Мы толькі можам заляйцаць сябе і... сваімі рукамі падаць лейцы таму, хто нясумленна кіруе намі і смаленай пугай нас паганяе, як якіх мулоў, ці вярблюдаў.

Сяляне паглядзеце вы на сваё штодзённае жыцьцё, на сваю вопратку і на свой шнурок... Гэта-ж усё прыдзецца падзяліць паміж сыноў. Якое гора іх спаткае, ужо далёка горшае, як вас бацькоў. Дык старайцеся паправіць сваё жыцьцё —пашырыць свае палоскі. Шчыльнымі радамі, хто толькі мае права голасу ідзеце 4-га і 11 сакавіка на выбары і кідайце ў скрынку № 18!

Чорны Адам.

## Усячына.

### Ператварэньне энэргіі ў матэрыю.

Рыская газэта „Сегодня" № 41 піша, што апошнімі днямі рускі акадэмік Палешчук змог простым мэханічным спосабам ператварыць энэргію ў матэрыю.

Калі далейшыя досьледы над гэтым зьявішчам дадуць памысныя вынікі, дык ува ўсей навуцы зробіцца вялікі пераварот, бо сучасная навука прызнае, што матэрыя вечна існуе сама сабою, ніадкуль не атрымліваецца.

### Самы цяжкі чалавек.

Самым цяжкім чалавекам, які жыве на зямной кулі, ёсьць немец—Робэрт Рогэндорф. Жыве ён у месьце Дуісбургу. Важыць—460 фунтаў. Абыймо яго шыі—60 сантымэтраў, грудзёў—186 сантымэтраў, а таліі—220 сантымэтраў. Росту ён—183 сантымэтры.

## НАШАЯ ПОШТА.

**Лаўрэну.** Прышліце дакладны Ваш адрэс.

**Кірэйчыку.** 20 экз. „Сял. Нівы" пасылаем. Пасьведчаньне na męża zaufania атрымаеце ад горадзенскага акружнога камітэту.

**Міх. Когелю.** Калі газэту чытаеце, дык даведаецеся, што сталася з камітэтам у Ваўкавыску.

**Дасталі ад:**

Смыка Ів.—2 зл.; Божкі Т., Кузьнецова М.—па 1 зл.



**Сяляне-Беларусы! Памятайце, што сьпісак, за каторы вы павінны галасаваць на выбарах у Сойм і Сэнат мае**

**№ 18**

Рэдактар і выдавец А. Герасімчук.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.